

Праваабарончы
інфармацыйны бюлетэнь
Берасьцейшчыны

№ 2 (люты), 2015

# Мяжа




**Алесь Беляцкі ў Берасьце**

(старонка 11)

## ЗЬМЕСТ

# Справу бярозаўскай журналісткі адправілі на дапрацоўку



У судзе Ленінскага раёна Берасця прайшоў разгляд справы незалежнай журналісткі з Бярозы Тамары Шчапёткінай

Супраць яе была заведзена новая адміністрацыйная справа за працу без акрэдытацыі на замежны сродак масавай інфармацыі. Журналістку абвінавачваюць у падрыхтоўцы інтэрв'ю з супрацоўнікам ДАІ Сяргеем Мілітовічам для „Беларускага Радыё Рацыя".

Паводле матэрыялаў справы, Тамара Шчапёткіна 8 студзеня правяла з міліцыянтам гутарку, якая пазней з'явілася на сайце радыё. Сённяшні суд вярнуў справу на дапрацоўку:

- Яўна, што гэта справа не міліцыі, але зноў робіцца міліцэйскімі рукамі, як гэта рабілася ў першай справе, якую разглядалі 17-га снежня. Ёсць дакладныя, ёсць інфармацыя сабраная КДБ, мой вялікі фотаздымак, які на „Рацыі" быў, усё пра Бельчукоў, пра тое, што мяне судзілі, як і якім чынам я пакараная. Міліцыянты выконваюць брудную справу.

Гэта не першая справа заведзеная супраць Тамары Шчапёткінай за працу без акрэдытацыі. У снежні летась журналістку ўжо пакаралі штрафам у 30 базавых велічыняў па тым жа артыкуле.

Як паведамляе Беларуская асацыяцыя журналістаў, летась міліцыя ўзбуджала як мінімум 14 спраў у дачыненні да журналістаў за супрацоўніцтва з замежнымі СМІ без акрэдытацыі. Сёлета таксама ўжо адбыўся суд над журналісткай Алінай Літвінчук.

http://www.racyja.com/hramadstva/spravu-byarozauskaj-zhurnalistki-adpr/

## На Берасцейшчыне ўзмацніліся рэпрэсіі супраць незалежных журналістаў

За першыя 2 месяцы новага году распачаты паўторна ўжо 2 адміністрацыйныя справы: супраць Тамары Шчапёткінай і Аліны Літвінчук.

Кіраўнік Берасцейскага аддзялення беларускай асацыяціі журналістаў Алег Супрунюк мае перасцярогу, што рэпрэсіі ў сувязі з будучымі палітычнымі падзеямі будуць ісці па нарастаючай:

- У мяне вельмі непрыемныя адчуванні, чым бліжэй будзе чарговая выбарчая кампанія, тым больш будзе ціск яўны ці не вельмі яўны за журналістамі, якія імкнуцца аб’ектыўна аблюстроўваць падзеі, якія адбываюцца ў нашым рэгіёне, у нашай краіне.

Грамадскія актывісты і грамадзяне, якім дапамагалі ў цяжкіх сітуацыях незалежныя журналісты, абураны ціскам на журналістаў з боку ўладаў:

- Гэта ўсё адбываецца таму што ідзе чарговая кампанія Лукашэнкі па ягонаму пераабранню. Ён хоча яе правесці, як заўжды “элегантна”. І вось мы бачым гэтыя яго „элегантныя” рэпрэсіі. Зараз жах бярэ ад тых рамак, у якія яго ставяць усіх – і незалежныя прафсаюзы, і незалежную прэсу і проста людзей, якія падняліся з кален і не хочуць на іх зноў станавіцца.

– Я лічу гэта абуральным, у мене суды з уладамі, і мяне ўвесь час абараняюць журналісты незалежныя, і я ім удзячная. Я лічу іх вельмі мужнымі, разумнымі і прыстойнымі людзьмі. Я лічу іх героямі.

Нагадаем справу Тамары Шчапёткінай накіравалі на перагляд з-за знойдзеных недахопаў. Яе вінавацяць за супрацу з замежным сродкам масавай інфармацыі без акрэдытацыі.

http://www.racyja.com/hramadstva/na-berastsejshchyne-uzmatsnilisya-repres/

## Брэст: акцыя салідарнасці з палітычным зняволеным Мікалаем Дзядком

Падчас акцыі мясцовыя анархісты змясцілі вялікія плакаты з партрэтам Мікалая Дзядка на розных гарадскіх пляцоўках. Такім чынам рабілася спроба прыцягнуць увагу грамадскасці да лёсу палітычнага вязня, асуджанага 26 лютага ў Магілёўскай турме да




дадатковага году зняволення.

Акрамя плакатаў брэсцкія прыхільнікі анархізму раскідалі некалькі дзясяткаў улётак і ўсталявалі банер з лозунгам “Свабоду палітвязням і анархістам” насупраць аднаго са шматлюдных прыпынкаў у цэнтры горада. Як паведамілі арганізатары акцыі, яе мэтаю было выказаць салідарнасць з усімі таварышамі, якія знаходзяцца ў турмах і зведваюць рэпрэсіі з боку беларускіх ўладаў.

Нагадаем, Мікалай Дзядок павінен быў выйсці на волю 3 сакавіка ў сувязі са сканчэннем тэрміну адбыцця пакарання, але 26 лютага ён быў асуджаны да яшчэ аднаго году зняволення.

http://spring96.org/be/news/75939

## Алесь Мех: Дысідэнты на лавах падсудных, а злачынцы на лепшых курортах Еўропы

Грамадскія актывісты Алесь Мех з Кобрына і Тарэза Жэгалава з Пружан наведалі палітвязня Юрыя Рубцова ў спецкамендатуры № 7 у вёсцы Куплін Пружанскага раёна. Паводле Алеся Меха, Рубцову патрэбна спыніць галадоўку. Юры Рубцоў галадае з 22 студзеня.

Стан палітвязня вельмі кепскі, канстатуе актывіст:

- Юры слабы, твар шэрага колеру, яго ўвесь час кідае ў дробную ліхаманку. Я яму параіў адразу спыніць галадоўку, бо далей гэта прывядзе да катастрафічных наступстваў для арганізму. На яго галадоўку ні мясцовыя міліцыянеры, ні ўлады звяртаць увагу не збіраюцца.

Алесь Мех заклікае Еўразвяз звярнуць увагу на краіну, якая знаходзіцца побач. І ў якой колькасць палітвязняў расце год ад года. Трэба зрабіць усе захады для спынення здзекаў над дысідэнтамі, кажа актывіст:

- Павінна дзейнічаць забарона ўезду ў Еўразвяз усім



чыноўнікам гэтага рэжыму. Прычым чыноўнікам featureрознага рангу. Ад ніжэйшага да вышэйшага. Гэта суддзі, пракуроры, прызначаныя кіраўнікі гарадоў, абласцей, іх намеснікі ды іншыя, а атрымліваецца наадварот – дысідэнты на лавах падсудных, а злачынцы на лепшых курортах Еўропы.

Па словах Алеся Меха, галадоўка да гэтага часу не зафіксавана афіцыйна. Юрыя Рубцова не наведвалі медыкі.

Улада дэманструе цынічныя абыякавыя адносіны да палітзняволенага. Юрыя Рубцова.

Гэта яшчэ раз паказвае звыродлівасць цяперашняга рэжыму, для якога чалавечае жыццё – гэта пыл.

http://www.racyja.com/palityka/dysidenty-na-lavakh-padsudnykh-a-zlach/

## Брэст: незалежны журналіст Алесь Ляўчук працягвае аспрэчваць вынесенае яму пакараннне ў выглядзе штрафа

Сябра ГА “Беларуская асацыяцыя журналістаў” Алесь Ляўчук рыхтуе скаргу на імя старшыні Брэсцкага абласнога суда пасля таго, як гэтая ўстанова пакінула без зменаў рашэнне суда Ленінскага раёна Брэста, што аштрафаваў журналіста на 6 мільёнаў рублёў.

Днямі Алесь Ляўчук атрымаў пастанову Брэсцкга абласнога суда, у якой са спасылкай на ўпраўленне Камітэта дзяржаўнай бяспекі па Брэсцкай вобласці ўзгадваецца, што Ляўчук нібыта з’яўляецца ўласным карэспандэнтам польскага тэлеканала “Белсат” у Брэсцкім



рэгіёне. Сам журналіст аспрэчвае гэты статус, як і тое, што займаўся “незаконным вырабам і распаўсюдам прадукцыі СМІ”, за што быў пакараны на падставе часткі 2 артыкула 22.9 Кодэкса РБ ад адміністрацыйных правапарушэннях. За гэта правапарушэнне суд першай інстацыі аштрафаваў Ляўчука на 40 базавых велічынь (6 мільёнаў рублёў).

Пасля атрымання ў пісьмовай форме адказу з Брэсцкага абласнога суда на сваю касацыйную скаргу, Алесь Ляўчук мае намер звярнуцца да старшыні гэтага суда, каб той у наглядным парадку адмяніў вынесенае рашэнне. У выпадку, калі гэта не адбудзецца, незалежны журналіст гатовы звяртацца ў Вярхоўны суд, а калі спатрэбіцца - ў міжнародныя інстанцыі, каб абараніць свае правы.

http://spring96.org/be/news/75387

## У Брэсце на адрас незалежных журналістаў гучалі абразы і пагрозы

Інцыдэнт здарыўся падчас здымкаў рэпартажа пра знішчэнне гістарычных будынкаў і адбыўся каля аднаго з аб’ектаў - калоніі Варбургаў, якая неўзабаве будзе разбурана.

Як паведаміў брэсцкі фрылансер Алесь Ляўчук, журналісты рыхтавалі рэпартаж пра тое, як знішчаюць унікальны для Беларусі архітэктурны ансамбль драўляных будынкаў, якія з’явіліся ў Брэсце ў дваццатыя гады мінулага стагоддзя дзякуючы ахвяраванням габрэйскай дабрачыннай арганізацыі “Джойнт” для бедных іудзейскіх сем'яў горада.

Падчас здымкаў да журналістаў спачатку падыйшоў ахоўнік, які паводзіўся сябе агрэсіўна: ён забараніў прайсці на аб’ект, дзе



неўзабаве распачнецца будаўніцтва, спаслаўшыся на тое, што ў журналістаў адсутнічае дазвол ад кіраўніцтва фірмы, а таксама няма будаўнічых касак (пры гэтым сам прадстаўнік аховы таксама яе не меў).

У хуткім часе на месцы падзей з’явіўся невядомы мужчына, які пачаў абражаць журналістаў і нават паабяцаў ударыць у твар. Пасля гэтага ён, таксама не маючы будаўнічай каскі, накіраваўся на тэрыторыю запланаванай будоўлі. Журналісты працягвалі здымкі ўжо за агароджанай пляцоўкай, дзе замест знішчаных гістарычных будынкаў мусіць з’явіцца гандлёвы аб’ект.

http://spring96.org/be/news/75467

## Сяржук Русецкі: Будзем тармасіць мясцовыя бярозаўскія ўлады

Бярозаўскія праваабаронцы пачалі рыхтавацца да пікетаў на 9-га сакавіка і 25-га сакавіка загадзя. Яны падалі заявы на заключэнне дамоў па абслугоўванні пікетаў з бальніцай, жыллёва-камунальнай гаспадаркай і міліцыяй. Хоць, паводле рашэння Савету міністраў № 207, дамаўляцца з міліцыяй павінен сам раённы выканаўчы камітэт, – кажа адзін з заяўнікаў пікету Сяржук Русецкі:

- Старое рашэнне Бярозаўскага райвыканкаму так і не адмененае, і згодна з ім суды прызнаюць, калі выканкам адаўляе нам правядзенне пікета ў сувязі з тым, што ў нас няма дамоў з міліцыяй, – права на баку райвыканкама. Паколькі дагэтуль змены ў рашэнні выканкаму пра правядзенне масавых мерапрыемстваў не зацверджаныя, а таксама не прайшлі праверку ў галоўнай управе юстыцыі Берасцейскага аблвыканкаму, то такім чынам будзем спрабаваць тармасіць мясцовыя бярозаўскія раённыя ўлады.

Бярозаўскія ўлады мяняюць сваё рашэнне згодна пастановы

Савету міністраў яшчэ з верасня мінулага году. І ніяк гэтую працу не могуць завершыць. Мэта планаваных пікетаў – адзначэнне чарговых угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. А таксама пратэст супраць размяшчэння ў Беларусі расейскіх вайсковых базаў і „за” вызваленне палітычных зняволеных.

http://www.racyja.com/hramadstva/syarzhuk-rusetski-budzem-tarmasits-myasts/

## Бярозаўскія праваабаронцы рыхтуюць два пікеты




Бярозаўскія праваабаронцы падалі заявы, каб з імі заключылі дамовы на абслугоўванне пікетаў 9 і 25 сакавіка, у бальніцу, ЖКГ і міліцыю.

У мясцовы РАУС яны вымушаны былі звярнуцца, паколькі да гэтага часу Бярозаўскі райвыканкам не змяніў сваё рашэнне згодна з Пастановай Саўміна № 207, які вызначае іншы парадак апавяшчэння супрацоўнікаў міліцыі аб правядзенні масавага мерапрыемства: да іх, згодна з Пастановай Саўміна, павінен звярнуцца сам выканкам, атрымаўшы заяву на правядзенне акцыі, і ўзгадніць меры па забеспячэнні правапарадку. Бярозаўскі райвыканкам ужо змяняў сваё рашэнне аб правядзенні масавых мерапрыемстваў у верасні 2014 год, але зрабіў гэта настолькі непрафесійна, што яно не прайшло юрыдычную экспертызу ў аблвыканкаме. У лістападзе мінулага года праваабаронцаў паўторна ўведаміў намеснік старшыні райвыканкама Яўгена Тарасюка, што новае змененае рашэнне адпраўлена на экспертызу, а вынікі будуць апублікаваны, аднак да гэтага часу ніякай інфармацыі пра гэта няма.

Праваабаронцы заяўляюць мэтай пікетаў у Бярозе адзначэнне 97-х угодкаў абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі (9сакавіка) і 97-я ўгодкі абвяшчэння незалежнасці БНР (25 сакавіка), а таксама пратэст супраць размяшчэння ў Беларусі расійскіх вайсковых баз і выказванне с алідарнасці з палітвязнямі.

http://spring96.org/be/news/75494

## Брэст: чарговы нумар праваабарончага бюлетэня прысвечаны судоваму пераследу мясцовых незалежных журналістаў


Брестское право
№10, ЯНВАРЬ 2015
СУД НАД ЖУРНАЛИСТАМИ
КОНСТИТУЦИЯ РБ: Статья 33. Каждому гарантируется свобода мнений, убеждений и их свободное выражение.
Ваши права нарушены? Сообщите о нарушении Ваших прав!
Общественная приемная
Каждую среду и пятницу
С 14.00 до 18.00

Акрамя таго, у нумары бюлетэня “Брэсцкае права” змешачаны матэрыялы наконт праблем, якія найбольш хвалююць мясцовых жыхароў, а таксама ўзгадваюцца выпадкі, калі парушаюцца правы чалавека.

Паводле праваабаронцаў і грамадскіх актывістаў, бюлетэнь, які выдаецца накладам 299 асобнікаў, распаўсюджваецца пераважна сярод мэтавых груп, якіх у першую чаргу тычацца публікацыі. “Калі, напрыклад, людзі ставілі свае подпісы пад зваротамі за тое, каб у Брэсце быў адноўлены дзіцячы гарадок альбо за даступнасць адукацыі, зразумела, што нумар “Брэсцкага права”, дзе гаворка ідзе пра рэакцыю ўладаў на гэтыя патрабаванні, будзе распаўсюджвацца сярод маладых бацькоў”, - заўважае адзін з ініцыятараў з’яўлення праваабарончага бюлетэня Ігар Маслоўскі. Ён таксама дадаў, што “Брэсцкае права” закранае яшчэ адну важную тэму - адсутнасць рэальнага самакіравання ў горадзе. Без доступу да інфармацыі пра гарадскі бюджэт прадстаўнікі грамадства не могуць даведацца, колькі і чаму выдаткоўваецца грошай на згаданую галіну адукацыі.

Акрамя таго, частка накладу бюлетэня абавязкова трапляе ў рэгіёны, дзе існуць абмежаваныя магчымасці доступу да друкаваных носьбітаў, што распавядаюць пра праваабарончыя тэмы. Апошнім часам “Брэсцкае права” мэтанакіравана распаўсюджвалася ў Бярозе, Лунінцы, Баранавічах, іншых гарадах і мястэчках рэгіёна.

http://spring96.org/be/news/75560

# Алесь Беляцкі ў Берасьце



14 лютага 2015 г. ў Берасьце адбылася сустрэча з кіраўніком праваабарончага цэнтра “Вясна”, віцэ-прэзідэнтам Международнай федырацыі праў чалавека Алесем Бяляцкім.

Алесь Бяляцкі прэзентаваў сваю кнігу “Іртутнае срэбра жыцця”, якую ён напісаў на кратамі; складаецца з лістоў, якія праваабаронца дасылаў на волю.

Кніга ахоплівае апошнія некалькі гадоў жыцця Бяляцкого, вяртае чытача падчас апошніх прэзідэнцкіх выбароў 2010 года.

Завяршаецца апошнімі словамі на судзе 23 лістапада 2011 г. Праваабаронца быў вызвален паводле амністыі 21 чэрвеня 2014 г.

“Справа мела палітычны падтэкст і яе галоўная задача – знішчыць “Вясну”, скампраментаваць мяне і пасадзіць, калі не з’еду за мяжу. А я адчуваў, што ўсё значна лепш,чым магло быць. Калі б я з’ехаў. Паспрабуй з-за мяжы апраўдацца ў тым, што было! Пра гэты перыяд фактычна напісана кніжка”, - распавёў Алесь Бяляцкі. Алесь адказаў на шмат пытанняў, падзякаваў усім, хто падтрымліваў яго ў зняволянні, ён прывёз да дому каля 40 тысяч лістоў падтрымкі.

Пасля прэзентацыі кожны прысутны атрымаў у падарунак па кгізе з аўтографам аўтара.

## Ваўкавыскі актывіст змог прыціснуць мясцовых чыноўнікаў

Прамоўца Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі падчас мінулай мясцовай кампаніі 2014 году ў Ваўкавыску Аляксандр Сезень дамогся ад уладаў публікацыі спісу дэпутатаў райсавету на афіцыйным сайце раёна.

Нягледзячы на тое, што кампанія скончылася летась у сакавіку, спісу не было дагэтуль.

„За нядобрасумленнае выкананне службовых абавязкаў, якія выявіліся ў неапублікаванні спісу новага складу раённага Савету на сайце Ваўкавыскага райвыканкаму да адказнасці прыцягнутыя службовыя асобы раённага Савету дэпутатаў”, – гаворыцца ў адказе ад старшыні райсавету дэпутатаў Віталя Навіцкага Аляксандру Сезеню:

- Што робіць старшыня Ваўкавыскага савету дэпутатаў, калі за год ён ні разу не зазірнуў на сайт раённага савету дэпутатаў і не аддаў загад абнавіць інфармацыю. Мне прыйшоў адказ з Гарадзенскага абласнога савету дэпутатаў, што будуць прынятыя меры супраць тых, хто не абнавіў сайт і змяніў інфармацыю пра дэпутатаў. Трэба ўсім грамадзянам не баяцца, можа яны пачнуць тады працаваць і справаздачыцца перад выбаршчыкам, а не сядзець там для галачкі і з усім пагаджацца.

Пры гэтым у адказ на просьбу апублікаваць справаздачы дэпутатаў за мінулы год на старонках раённай газеты, Віталь Навіцкі паведаміў, што ўсе дэпутаты зрабілі свае справаздачы перад выбаршчыкамі, а публікаваць яны іх не абавязаныя.

„Насамрэч, толькі адзін дэпутат і той толькі пасля звароту ў пракуратуру, зрабіў справаздачу па сваёй Школьнай акрузе № 13. Астатняе – гэта суцэльная фікцыя і хлусня пра справаздачы дэпутатаў”, – адзначыў Аляксандр Сезень.

http://www.racyja.com/hramadstva/vaukavyski-aktyvist-zmog-prytsisnuts/

## Берасцейскую журналістку аштрафавалі завочна



Суд Ленінскага раёна Берасця пайшоў на грубае парушэнне беларускага заканадаўства, у тым ліку працэсуальнага кодэксу, а таксама Канстытуцыі і Міжнародных нормаў.

Пра гэта паведаміла незалежная журналістка Аліна Літвінчук.

Згодна пастановы суда, 8 студзеня Аліна Літвінчук не маючы акрэдытацыі узяла інтэрв'ю ў старшыні Берасцейскага абласнога аддзялення Беларускага фонду міра Лідзіі Раманюк, чым парушыла Закон Аб сродках масавай інфармацыі.

Грамадзянка нібыта здзейсніла незаконны выраб інфармацыйных матэрыялаў. Сведка Лідзія Раманюк у судзе пацвердзіла факт дачы інтэрв'ю для Беларускага Радыё Рацыя, што адлюстравана ў пастанове суда.

Суд прызнаў Аліну Літвінчук вінаватай у адміністрацыйным парушэнні і прызначыў штраф у памеры 40 базавых велічыняў, альбо 7 мільёнаў 200 тысяч беларускіх рублёў.

- Мяне ніхто не выклікаў у міліцыю афіцыйна. Я не ставіла свой подпіс пад тым, што я азнаёмленая з матэрыяламі справы, Пра тое, што адбыўся суд я дазналася па факце. Тут парушэнне Канстытуцыі Рэспублікі, якая гарантуе нам права на законны збор і распаўсюд інфармацыі. Гэта і парушэнне і міжнародных нормаў – Пакт пра грамадзянскіх і палітычны правах, які падпісала Беларусь.

Са слоў Аліны Літвінчук, незаконны прысуд вынес суддзя

Семенчук, а на суд і ў міліцыю яе ніхто ў пісьмовай форме не запрасіў. Суд не ўведаміў, што супраць яе заведзеная адміністрацыйная справа.

Аліна Літвінчук атрымала ліст пастановы суда ў паштовую скрыню. Цяпер яна рыхтуе зварот да старшыні суда Ленінскага раёна ў сувязі з супрацьпраўнымі дзеяннямі ў адносінах да яе, а таксама скаргу ў абласны суд.

http://www.racyja.com/hramadstva/berastsejskuyu-zhurnalistku-ashtrafaval/

## У Берасці першы кіраўнік незалежнай Беларусі Станіслаў Шушкевіч прэзентаваў сваю кнігу "Маё жыццё, крах і ўваскрашэнне СССР"



У апошні дзень зімы 28 лютага 2015 года берасьцейцы мелі магчымасць сустрэцца з вядомым палітыкам, першым кіраўніком незалежнай Беларусі, прафессарам фізікі Станіславам Шушкевічам.

Екс-кіраўнік дзяржавы прэзентаваў сваю кнігу "Маё жыццё, крах і ўваскрашэнне СССР", гэта палітычная аўтабіяграфія спалучаная ў кнізе з ацэнкай і аналізам значных падзеяў, узельнікам ці сведкам якіх быў аўтар.

Станіслаў Шушкевіч задумаў напісаць кнігу пасля таго, як прачытаў пра тое, что напісаў Кебічу сваёй кнізе-успамінаў. Кебіч згадываў пра падеі ў Белавескай пушчы, пра тое, што не хацеў

падпісываць Белавескага пагаднення, а насам рэч іх падпісывалі 6 чалавек. Галоўныя асобы таго часу: Ельцын – Бурбуліс ад Расеі; Шушкевіч – Кебіч ад Беларусі і Краўчук – Фокін ад Украіны.

Станістаў Шушкевіч прысвяціў сваю кнігу тым, каму лёсам наканавана вярнуць Беларусь у Еўропу, - беларускай моладзі. “Вучыцеся на нашых памылках, не будзце празмерна даверлівымі“

Напрыканцы сустрэчы С.Шушкевіч адказаў на пытанні прысутных, якія тычыліся падзеяў сённяшнего дня.

## Берасцейскую журналістку Іну Хоміч выклікае на размову ўчастковы

Спачатку Іна Хоміч збіралася прыйсці да яго сама, але пасля прапанавала прыехаць праваахоўніку. У якасці прычыны для гутаркі ўчастковы назваў дату 5 лютага, кажа Інна Хоміч:

- Пазваніў участковы, прычым не мой участковы, а з таго месца, дзе я раней жыла. Ледзь выцягнула з яго, з якой мэтай сустрэцца. Тады ён ужо ўдакладніў, што яго цікавіць 5 лютага. Я ўвогуле не магла згадаць, дзе я была 5 лютага, што гэта такое. Удакладніў яшчэ раз, што яго цікавіць Моталь. Я дакладна ездзіла ў лютым у Моталь на адкрыццё музея хлеба. Ён сказаў, што я там брала каментар у Кацярыны, як ён сказаў без прозвішча. Гэта яго і цікавіць. Больш нічога не ўдакладняў.

Таксама не сказаў участковы, ці связана размова з супрацоўніцтвам Іны Хоміч з замежнымі сродкамі масавай інфармацыі без акрэдытацыі.

http://www.racyja.com/hramadstva/berastsejskuyu-zhurnalistku-inu-khomich-v/

## Як бальшавікі знішчылі царкву Святога прарока Іллі

На Піншчыне сабраны дзясятак успамінаў ад старажыл пра тое, як бальшавікі знішчалі праваслаўную святыню. Царква Святога прарока Іллі ў Пінкавічах, выява якой захавалася дзякуючы малюнку Язэпа Драздовіча, была разабраная атэістамі на дровы ў пачатку 1960-х гадоў.

У мінулым годзе, сярод мясцовых жыхароў, з’явілася ідэя ўшанаваць памяць пра святыню, і на месцы царквы паставіць альбо



капліцу, альбо крыж. Ініцыятыва перарасла ў цэлае даследаванне, і ўспаміны сведкаў тых падзей трапяць у брашуру па гісторыі святыні.

“Калі маеш сілы, то мусіш рабіць нешта карыснае”, – адзначае ініцыятарка Святлана Мажароўская:

- Прыйшла ў галаву такая думка – чаму ў Пінкавічах царква Пакроўская, а прастольнае свята адзначаем у Дзень Святога прарока Іллі? Гэтыя “пазлы” ніяк не супадалі. Я звярнулася з пытаннем да айца Міхаіла. І пасля гэтага вырашыла заняцца вывучэннем гісторыі нашай Іллінскай царквы.

Сярод успамінаў – аповед мясцовага 80-гадовага мастака Мікалая Казлоўскага, які ў час вайны хаваўся ў царкве ад нацыстаў, а таксама падрабязнасці аперацыі па знішчэнні царквы. Акрамя гэтага ўдалося аднавіць старажытнае паданне пра з’яўленне пінкавіцкаму пастуху на дрэве вяз абраза Святога прарока Іллі.

http://www.racyja.com/kultura/yak-balshaviki-znishchyli-tsarkvu-svyatog/

**Кантакты:**

**e-mail:** viasna_bierascie@hotmail.com

**Наклад 299 асобникаў**

Праваабарончы інфармацыйны бюлетэнь Берасьцейшчыны «Мяжа»